# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1781) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 1 ЛІПЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



Жупраны. На магіле Францішка Багушэвіча.

## Свята паэзіі

Па запрашэнні Саюза пісьменнікаў БССР і аддзела культуры Аблвыканкама ў Гародні пашчасцілася мне пабываць на Рэспубліканскім Свяце паэзіі, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння паэта-дэмакрата Францішка Багушэвіча.

Мая пабыўка на гродзенскай зямлі пачалася ўдзелам у канцэрце беларускага барда Сяржука Сокалава-Воюша, які пад неадлучную гітару выконваў песні на словы сваіх вершаў. Канцэрт адбыўся ўвечары 31 мая ў мурах былога Бернардзінскага манастыра, сядзібе Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі. Пасля канцэрта давялося і мне тут выступіць.

Далучыўшыся з Сокалавым-Воюшам, які тут быў на гастролях, да дэлегацыі гродзенскіх пісьменнікаў — Д. Бічэль-Загнетавай, А. Карпюка і А. Чобата, раніцай 1 чэрвеня паехалі мы мікробусам у Смаргонь, дзе былі госцьмі гаспадароў горада. Пад вечар мы ўжо пабывалі на сядзібе Багушэвіча ў вёсцы Кушляны, дзе праводзілася інтэнсіўная падрыхтоўка да Свята.

Цёплай сонечнай раніцай 2 чэрвеня спяшаліся мы, каб паспець на адкрыццё вялікай урачыстасці. У гэты маляўнічы закутак Смаргоншчыны, Кушляны, з усіх канцоў беларускай зямлі, а таксама з Украіны, Літвы, Расіі і Польшчы, прыбываюць госці, каб пакланіцца памяці Багушэвіча.

У суседняй вёсцы Жупраны, дзе знаходзіцца помнік і магіла паэта, шматлікую дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў вітае старшыня мясцовага калгаса імя Багушэвіча В. Ждановіч, які ўручае каравай старшыні Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР В. Зуёнку.

Ускладваем кветкі ля помніка паэту і на яго магіле. Літаратуразнаўца Я. Янушкевіч выказвае цёплыя словы аб паэту і жупранскай зямлі, якая навечна прыняла песняра. На магіле ўскладваюць кветкі, запальва-

(Працяг на стар. 6)

## Пра выбары без эмоцыі

Да выбарчых урнаў на першыя дэмакратычныя выбары ў пасляваеннай Польшчы пайшло 42% выбаршчыкаў. Не апраўдаліся аптымістычныя перадвыбарчыя спадзяванні асяродка па даследаванні грамадскіх настрояў. Народ не хоча ўдзельнічаць у пабудове дэмакратычнага ладу ў краіне? Народ расчараваны палітыкай цяперашняга ўрада і непрысутнасцю на выбарах выказвае сваё незадавальненне? Магчыма, што і адно, і другое. І яшчэ трэцяе: адсутнасць якой-колечы разумнай палітычнай альтэрнатывы для праграмы ўрада Т. Мазавецкага. Не мелі такой альтэрнатывы ні партыі, якія пасля чэрвеньскіх выбараў летась наспех пачалі пераапранацца і перамалёўвацца, ні цэлая плойма новаўзніклых. Дык, значыць, так ці сяк, давядзецца галасаваць на кандыдатаў з-пад шыльды „Салідарнасць“. А што такое „Салідарнасць“ зараз, народ спакваля пачынае адчуваць. Пакуль што, жыватамі. Я думаю, на выбары не пайшлі перш за ўсё тыя, што былі паверылі мінулагоднім салідарніцкім запэўніванням, нібы праз паўгода народ адчуе паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў краіне. Адбылося адваротнае, і людзі зрэагавалі эмацыянальна. Не надта спрацавалі заклікі, што трэба ачысціць нізы ўлады ад былой наменклатуры. „Zachodźże, czerwone słoneczko“, — настойваў адзін з выбарчых плакатаў „Салідарнасці“. Яно зайшло ўжо раней, а якое ўзыйдзе цяпер? Наменклатуру быццам дарэзалі, прыйшлі новыя людзі (гэта значыць, кандыдаты ад грамадзянскіх камітэтаў „Салідарнасці“). Такое прарочылі перад выбарамі ўсе, але цешыцца ніхто не спяшаецца. Няма каму глядзець на ручкі, як кажуць у Гарадку. На ручкі новых уладароў краіны. Той-сёй з журналістаў, пішучы пра вынікі выбараў, загаворвае пра слабасць партыйнай сістэмы ў краіне, пра цяжкія роды дэмакратыі і гэтак далей. А як жа інакш магло адбыцца ў краіне, дзе сапраўдных традыцый дэмакратычнага палітычнага жыцця, у заходнім значэнні, не было і духу? Людзей вучылі думаць сімваламі. Таму і маем сімвалічную дэмакратыю, гэта значыць, новую аўтарытарнасць. Салідарніцкую.

(Працяг на стар. 8)

# У камітэце пабудовы музея

У Грамадскім камітэце пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы 10 чэрвеня г.г. адбылося чарговае пленарнае пасяджэнне з удзелам старшыні ГП БГКТ Аляксандра Баршчэўскага, яго намесніка Аляксандра Іваноўскага і прадстаўнікоў тых мясцовых установ, якія супрацоўнічаюць у рэалізацыі пабудовы.

З дакладамі выступілі старшыня Камітэта пабудовы Кастусь Майсеня і старшыня Рэвізійнай камісіі Уладзімір Юзвюк. Удзельнікі сходу сцвярджалі, што, дзякуючы намаганням членаў Камітэта пабудовы музея, асабліва яго старшыні, а таксама даволі карысным суадносінам з мясцовымі ўладамі і грамадскасцю Гайнаўкі, на працягу мінулага года дасягнуты добрыя вынікі ў рэалізацыі плана пабудовы. Праца ў будынку „А" амаль закончана, і ў трэцім квартале гэтага года пачнецца яго загаспадаранне. Над канцэпцыяй гэтага загаспадарання разгарэліся ажыўленыя спрэчкі. Большасць прысутных лічыць абавязковым арганізаваць часовую выстаўку сабраных ўжо экспанатаў. Іншыя выказвалі засцярогі, што недахоп фінансавых сродкаў прымусіць наладзіць у частцы будынка гаспадарчую дзейнасць, каб даходы з яе прызначаць на патрэбы музея. Напрамкі гэтай дзейнасці будуць яшчэ разглядацца.

Другая частка — будынак „Б" — дасягнула ў існуючых умовах стан максімальны — узведзены сцены і перакрыцці. Дасягненні можна ахарактарызаваць наступнымі дадзенымі. У 1988 годзе вартасць усёй пабудовы складала каля 52 млн. злотых, а ў канцы 1989 года ўжо 142 млн. злотых пры яшчэ даволі нізкай тагачаснай інфляцыі залатоўкі.

Цяжка нават уявіць сабе наша становішча. Пабудова ў сённяшніх цэнах пералічваецца на 1,5 млд. злотых, столькі ж патрэбна на яе заканчэнне, а Камітэт пабудовы музея меў у канцы сакавіка ўсяго каля 10 млн. злотых, каля 2 тысяч рублёў і 720 долараў. У гэты крытычны момант на дапамогу прыйшла Гарадская рада нарадовая ў Гайнаўцы, якая перадала 80 млн. злотых. Зноў пачаліся больш інтэнсіўна будаўнічыя працы.

Даволі інтэнсіўна вяліся будаўнічыя працы ў першым квартале гэтага года дзякуючы спрыяльнаму надвор'ю. Аднак пасля па прычыне недахопу фінансавых сродкаў праца была спынена. Вяліся пошукі іншых, менш арганізаваных грамадскіх форм пабудовы, але эфекты іх былі даволі мізэрныя. У гэтым жа часе наступіла нейкае агульнае змяншэнне фінансавых ахвяр ад насельніцтва і дзяржаўна-кааператыўных установ. Усе, відаць, адчуваюць грамадска-гаспадарчы крызіс, не хапае грошай на ўласныя першапланавыя патрэбы.

Пасяджэнне было прысвечана ў першую чаргу фінансаваму забеспячэнню пабудовы ў другім паўгоддзі. З вялікай удзячнасцю прысутныя гаварылі аб ахвярнасці грамадскасці БССР. За сабраныя там грошы атрымана мноства дэфіцытных або вельмі дарагіх у нас будаўнічых матэрыялаў, машын, абсталявання. Велізарную падтрымку складаюць таксама ахвяры ў доларах, якія наплываюць ад сімпатыкаў нашага пачыну з заходніх краін, у тым ліку з ЗША, Канады, Аўстраліі.

Адчувалася, што прысутныя незалежна ад усіх цяжкасцей намагаюцца як найхутчэй закончыць прынамсі другі этап пабудовы музея і адкрыць экспазіцыю. Жыхары вёскі Пасечнікі-Вялікія зробяць значную частку драўнянай агароджы. Грамадскім чынам будзе пракладзены электракабель, загаспадараны музейны пляц, звезены экспанаты. Таксама добраахвотнікі будуць пільнаваць пабудову.

Прысутныя вырашылі склікаць у кастрычніку агульны сход членаў Камітэта пабудовы музея з удзелам заграпічных гасцей. Была выбрана камісія (А. Баршчэўскі, М. Бушко, М. Клімюк і У. Юзвюк) для актуалізавання статута Камітэта. Змены гэтыя ахопяць назву музея, актуалізацыю ўзносаў і іншае. Прадыскутавана была патрэба ўтварэння некалькіх камісій пры Камітэце, а таксама павелічэння штатаў па меры загаспадарвання памяшканняў. Пачынаецца прыстасоўванне адной з залаў на патрэбы кіно, асабліва для школьнікаў, таму што ў Гайнаўцы закрыты апошні кінатэатр.

Усё гэта настрайвае даволі аптымістычна.

**У. Юзвюк**

## З мінулага тыдня

**Парламенты ФРГ і ГДР** на супольным пасяджэнні прынялі дэкларацыю аб непарушнасці польскай заходняй граніцы на Одры і Нысе-Лужыцкай.

**Танцавальны калектыў „Васілёк" з Нью-Йорка** па запрашэнні Таварыства „Радзіма" прабывае на Беларусі. Артысты выступяць у Мінску, Віцебску, Полацку, Гародні і Вільні. Калектыву спадарожнічае група студэнтаў з БАСа.

**Саюз палякаў на Беларусі** быў створаны ў Гродне на з'ездзе прадстаўнікоў польскіх асяроддзяў з еўрапейскай часткі ССР. Гасцямі з'езда былі старшыня „Супольнасці польскай" (арганізацыі для супрацоўніцтва з палякамі ў замежжы) маршалак Сената РП праф. Анджэй Стэльмахоўскі і яго намеснік біскуп плоцкі Зыгмунт Камінскі, а таксама намеснік старшыні Вярхоўнага Савета БССР праф. Станіслаў Шушкевіч.

**Дэлегацыя Беларускага чырвонага крыжа** прабывала ў Беластоку. Госці цікавіліся развіццём і формамі донарства ў Польшчы.

**Парламент Літвы** супрацівіўся прапанове літоўскага ўрада адтэрмінаваць на час перагавораў з Масквой дэкларацыю незалежнасці. 15 тысяч сяброў Саюдзіса сабралася перад парламентам, каб запратэставаць супраць урадавай прапановы.

**Камуністычная партыя Расіі** была створана на партыйнай канферэнцыі Расійскай Федэрацыі ў Маскве. Удзельнікі канферэнцыі заявілі, што КП РСФСР лічаць яны „суцэльнай часткай" КПСС.

**Выяўляюцца новыя месцы пахавання польскіх афіцэраў, расстраляных НКВД.** У лесе каля мясцовасці **Меднае** на поўнач ад Калініна праўдападобна пахаваны ваеннапалонныя з лагера ў Асташкове. Масавыя пахаванні знойдзены ў **яры Сучча пад Луганскам** (раней Варашылаўград) на Украіне. Усё паказвае на тое, што пахаваны там польскія афіцэры з лагера ў Старабельску, якія былі падначалены варашылаўградскаму НКВД.

**Кіраўніцтва прафсаюзаў ОПЗЗ** прапанавала іншым прафсаюзным арганізацыям сустрэчу з мэтай выпрацаваць супольнае становішча адносна планаванага ўрадам павышэння цэн між іншым газу і электраэнергіі.

**Папа рымскі наведае Беласток.** У Кракаве на канферэнцыі біскупаў Польшчы былі зацверджаны праект праграмы чацвёртага паломніцтва папы ў Айчыну ў чэрвені 1991 года. Прадбачвае ён, што папа Ян Павел II наведае яшчэ Ломжу, Кашалін, Жэшаў, Любачоў, Кельцы, Радам, Ольштын, Влацлавак, Плоцк і Варшаву.

**Беластоцкія радныя не выбралі прэзідэнта.** Два кандыдаты, сярод якіх быў актуальны прэзідэнт Ежы Чабан, не атрымалі патрэбнага ліку галасоў. Ежы Чабан вырашыў не ставіць сваю кандыдатуру на чарговай сесіі гарадской рады.

**Войтам у Нарве выбраны Ян Тапалянскі.** Раней быў ён начальнікам гэтай гміны, а апошнім часам працаваў у Камітэце пабудовы беларускага музея ў Гайнаўцы.

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

### АБ УТВАРЭННІ МІЖНАРОДНАГА ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСІСТАЎ

Удзельнікі Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю з дня нараджэння Францыска Скарыны і арганізаванай у Варшаве (18—19.VI.1990) Камітэтам славяназнаўства Польскай акадэміі навук, Інстытутам славяназнаўства Польскай акадэміі навук, Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Філіялам Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы з удзелам вучоных з СССР (Мінск, Масква, Ленінград, Рыга, Гомель, Гродна), Польшчы (Варшава, Познань, Кракаў, Вроцлаў, Беласток, Торунь, Люблін), ЗША, Балгарыі, ГДР, выступілі з ініцыятывай стварыць Міжнароднае згуртаванне беларусістаў (МЗБ), якое мае на мэце спрыяць даследаванням па беларусістыцы ў розных краінах свету, весці каардынацыі гэтых прац, абмен навуковай інфармацыяй, спрыяць падрыхтоўцы даследчыкаў-спецыялістаў.

У выніку кансультацый з беларусістамі розных краін было склікана пасяджэнне, у якім прынялі ўдзел 53 вучоныя, спецыялісты ў галіне беларускага мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыі, этнаграфіі, фальклору, мастацтвазнаўства, а таксама перакладчыкі і прадстаўнікі грамадскасці і духавенства.

Пасля разгляду і абмеркавання прадстаўленых прапаноў удзельнікі сходу прынялі наступнае рашэнне:

1. Стварыць Міжнароднае згуртаванне беларусістаў з каардынацыйным цэнтрам у Мінску і пачаць дзейнасць з дня прыняцця гэтага рашэння.

2. Выбраць арганізацыйны камітэт Міжнароднага згуртавання беларусістаў у наступным складзе: Адам Мальдзіс (старшыня, БССР), Генадзь Цыхун (сакратар, БССР), намеснікі старшыні Томас Бэрд (ЗША), Джэймс Дзінглі (Вялікабрытанія), Карл Гутшміт (ГДР), Міхал Кандрацюк (Польшча), Аляксей Каўка (РСФСР), сябры — Уладзімір Анічэнка (БССР), Альбэрт Барташэвіч (Польшча), Аляксандр Баршчэўскі (Польшча), Мікалай Бірыла (БССР), Іван Дзешка (БССР), Вітаўт Кіпель (ЗША), Тадэвуш Левашкевіч (Польшча), Алег Лойка (БССР), Мікалай Нікалаеў (РСФСР), Альжбета Смулкова (Польшча), Леў Шакун (БССР), Румяна Эфцімава (Балгарыя).

3. Даручыць арганізацыйнаму камітэту выпрацаваць праекты Праграмы і Статуту МЗБ.

4. Установчы з'езд Міжнароднага згуртавання беларусістаў правесці ў 1991 годзе ў Мінску.

Арганізацыйны сход заклікае беларусістаў розных краін ствараць нацыянальныя і рэгіянальныя камітэты МЗБ.

(яч)

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 370

# ВІКТАР ШВЕД

## АПУСЦЕЛАЯ ВЁСКА

Пайшоў бацька наш следам
Век аджыўшага дзеда.
Гаспадарыў у вёсцы
На збяднелай палосцы.
Потым я, следам таты,
Гаспадарыў тут з братам.
Ды ўжо нашыя дзеці
Разбрыліся па свеце.
У вясковых мы хатах
Дажываем век з братам.
Апусцела ўжо вёска,
Апусцела палоска.

## КАЛЫХАНКА

Спі, засні, мая дачуся,
Хай жа прыдзе сон.
Узняла над Беларуссю
Ноч свой парасон.

Чорную надзеўшы блузку,
Ноч пайшла ў абход.
Спіць народ наш беларускі
Пасля ўсіх турбот.

Сціхлі гукі роднай мовы,
Песенны напеў.
Сціхла ў векавых дубровах
Шапаценне дрэў.

Спіць прырода, твая матка
Пачала драмаць.
Спі, засні, маё дзіцятка,
Мусім рана ўстаць.

## Я НЕ ПАТРЭБНЫ ТУТ НІКОМУ

Я не патрэбны тут нікому
У калаўроце гарадскім.
Мне вельмі хочацца дадому,
Я ж так там зроднены з усім.

Хачу сардэчна пакланіцца
Палям айчынным і лугам.
Напіцца з роднае крыніцы,
Волю разутым даць нагам.

Хачу пачуць спеў жаўруковы,
І гоман белавежскіх дрэў,
І гукі беларускай мовы,
І песні роднае напеў.

Хачу я на прыроды ўлонні
Пакінуць гарадскі ўвесь зман,
Сціснуць шурпатыя далоні
З зямлёю зродненых сялян.

## КРУГАВАРОТ

Успаміны, успаміны
З год, калі быў малалеткам,
Жыў у дзедавай хаціне
Са старэнькім кволым дзедкам.

Адыйшлі ў нябыт, вядома,
Дзедка са старою хатай.
Зажылі мы ў новым доме,
Што пабудаваў наш тата.

І татулькі ўжо не стала
У жыцця кругавароце.
Век кароткі, нетрывалы,
Пастаянна кругам коціць.

Вось гамоняць і шчабечуць
Мае ўнукі-малалеткі.
Жыццё горбіць мае плечы,
Уздыхнуў: дык я ўжо дзедка.

## НАШ ЛЕС

Лес дрымучы, ў тваіх нетрах
Колькі ж казачнай красы!
Тваё чыстае паветра
Поўняць птушак галасы.

Паміж меднастволых соснаў
Разаслаўся дываном
Каляровы свет дзівосны,
З рознай ягадай, грыбом.

Тут каханая жанчына
У кустах брыдзе густых,
Як збірае мне маліны,
Жмені поўняцца за міг.

Быццам сэрца на далоні,
Мне нясе багровы дар.
Як шчаслівы я сягоння!
Да здзяйснення — безліч мар!

*Варшава, 1 жніўня 1988 г.*

## ЖЫЦЬ ПАНАМ

Тут, на сваёй зямлі, спрадвеку
Ён не лічыўся чалавекам.
Яго двухногаю скацінай
Тут толькі звалі ўсе няспынна.
Ён мусіў цэлымі вякамі
Жыць хамам.

Таму не хоча на палосцы
І ў роднай заставацца вёсцы.
Імкнецца безупынна ў горад,
Каб больш не паўтарыцца гору.
Хоча не быць больш пагарджаным,
Жыць панам.

## ГАРАДСКІ ГОСЦЬ

Гарачаю летняй часінай
Да сябра вясковага ў госці
Прыехаў на адпачынак
Адзін гарадскі ягамосця.

У працы дык нічагуткі
Дапамагчы ён не хоча,
А збожжа жаць трэба хутка,
Час уцякае рабочы.

І селянін знерваваны
Урэшце пытае: — Мой дружа,
Ці ты часамі, каханы,
Па жонцы і дзецях не тужыш?

— Але ж ты, братка, разумны
І спачувальны, каб ведаў!
Мне без маіх вельмі сумна,
Дык напішу, хай прыедуць.

## СОН

Прысніўся сон. У роднай хаце
Я апынуўшыся ізноў,
Сустрэўся са старэнькай маці
І прывітаў яе без слоў.

І на калені, як ніколі,
Матулю ўзяў, нібы дзіця.
І маё сэрца, замест болю,
Было паўнютка пачуцця.

Нядоўга цешымся і снамі...
Настаў майго ад'езду час.
Хацеў забраць з сабою маму,
Ды ад яе пачуў адказ:

— Я ўжо, сынок, жыву ў цярпенні,
Мне рэдка не баліць калі.
Узяў мяне ты на калені —
Быццам абвёз вакол зямлі.

## МАЁ СОНЕЙКА

Ты сонейка, што ззяе мне і ўночы,
У цемрадзь пасылае свой прамень.
Трапляе ён у змучаныя вочы
І ў заўтрашні мяне кіруе дзень.

А раніцою сонейкам сагрэты,
Імкнуся я да новага жыцця.
І як мне сапраўды не быць паэтам,
Калі ў душы так многа пачуцця!

Калі знікаюць жудасныя хмары
З маіх заўжды азмрочаных нябёс,
Калі настаў час збыцца маім марам,
Зноў усміхнуўся мне ласкавы лёс.

Дык будзь заўсёды, сонейка, са мною
І сагравай мяне сваім цяплом.
Хачу заўжды быць, сонейка, з табою
І цешыцца адроджаным жыццём.

## ВАСІЛЬКІ-ВАЛОШКІ

Ідзіце, глядзіце —
Валошкі у жыце!
Спыніцеся трошкі,
Цвітуць вам валошкі.
У золаце жыта
Так многа блакіту.
Міргаюць, як вочкі,
Да нас васілёчкі.
Нас цешыць улетку
Сімволіка — кветкі.
Пайду пакланюся
Красе Беларусі.



*Фота Уладзіслава Завадскага.*

## Цень фашызму ўсё яшчэ пагражае

На людзей майго ўзросту і маіх перажыванняў, якія прайшлі праз кашмар вайны і не могуць спаць спакойна, находзяць і сёння страшэнныя думкі. Той час пакалечыў людзей не толькі фізічна, але і псіхічна. Цяперашняе пакаленне шасцідзесяцігодкаў — гэта людзі са звіхнутай асабовасцю, а калі ім аб гэтым прыпомняць, абражаюцца.

Над нашымі землямі бушаваў крывавы фашызм, які ніадобрымі лічыў яўрэяў, камуністаў, бальшавікоў, беларусаў, палякаў і ўсіх, хто яго не падтрымоўваў, не гаворачы ўжо аб тых, хто прабаваў аказваць яму супраціўленне. Для фашыстаў вінаватымі былі нават дзеці. Прыкладам няхай будзе Райск.

Аднак знайшліся і ў нас людзі, якія пайшлі на службу гэтай карычневай чуме. Цяпер яны гавораць, што пайшлі служыць немцам, бо не хацелі савецкай улады і баяліся, што вывезуць іх у Сібір. У многіх выпадках гэта хлусня. Ведаю такіх, якімі не цікавіліся саветы, але яны пайшлі служыць немцам. Маглі яны нават служыць, але не знішчаць свайго народа.

Аднойчы я на сходзе ветэранаў ЗБоВіДу чытаў даклад. Калі скончыў, выступіў адзін ветэран і пачаў наракаць на дрэнныя ўмовы, у якіх жывуць старэйшыя людзі, хоць яны ваявалі з акупантамі і змагаліся за народную ўладу ў Польшчы... Я слухаў яго і нават яму спачуваў, хоць бачыў на ім прыгожы кажух, валёнкі і не такія ўжо бледныя шчокі. Ён, акрамя пенсіі і працы на гаспадарцы, яшчэ дарабляў на пункце скупкі жывёлы. Скончыўся сход. Людзі пачалі разыходзіцца, а я пачаў гутарку з групай, якая мяне акружыла, і даведаўся, што чалавек, які належыць да ЗБоВіДу, 6 верасня 1939 года трапіў у нямецкую няволю як польскі салдат, а ў сорак другім годзе быў вызвалены. Аказалася, што нездарма яго звольнілі немцы якраз у 1942 годзе. Ён у сваёй вёсцы лавіў савецкіх ваеннапалонных, якім удавалася ўцячы з канцлагера. Адзін хлапец, — расказвалі мне, — які трапіў у рукі гэтых „паляўнічых", ногі солтысу цалаваў і гаварыў, што ён з Гомеля — мае там жонку і двое дзяцей маленькіх, быў у лагеры, у якім гінулі ад галоднай смерці тысячы яго калег з Савецкай Арміі. Цяпер ён хоча дастацца дадому і ўчабыць сям'ю. Солтыс сказаў: „Я не магу гэтага чалавека аддаць жандарам на смерць". На тое наш сённяшні ветэран: „Калі ты не завязеш яго ў жандармерыю, то я скажу ім, што ты хаваеш у сябе бальшавікоў". Аддалі хлопца жандарам, а тыя расстралялі яго.

Пытаў я сваіх размоўцаў, ці дадуць яны паказанне, калі б дайшло да суда.

— Што ты, Вася, ты хочаш, каб ён нас спаліў?

У цяперашнім часе многа размоў вяду з людзьмі, якія былі

## САКРАТ ЯНОВІЧ ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Апошні раз быў у Мінску я дзесяць гадоў назад (калі не лічыць парагадзінны эпізод у леташні перадвялікдзень). За такі адрэзак часу можна адчуць змены, і яны відочныя. Нават у архітэктуры сталіцы, у якой прыгнятаючы чалавека пруські стыль дзе-нідзе рассвятляе сучаснасць. І як бы меней выліваюць тратуары агідным асфальтам... Але перш-наперш я не баяўся ўжо загаварыць па-беларуску ў беларускім стольным горадзе! І хоць надалей вулічнае жыццё тут па-правінцыйнаму рускае, аднак жа прапаў кудысьці той імперскі хам, які раней так заміласана пляваўся ў тралейбусе ці ў трамваі на беларускую гутарку. Пабольшала і роднамоўных надпісаў, рэкламаў, што выклікае даволі парадаксальны псіхалагічны эфект нейкай моўнай акупацыі. Болей інтэлігентныя адзінкі ў абруселым натоўпе разумеюць, што Беларусь мусіць стацца беларускай, інакш кажучы, сабою. Такая логіка гісторыі, свайго роду сіндром Алжыра, у якім некалі французскую палітычную і культурную дамінацыю вымела арабская, карэнная.

Рэфлекс каланіяльнай падатлівасці ў псіхалогіі беларуса надта ж моцны, але не вечны. Не па-жывёльнаму безумоўны.

Дэкада ў культуры ці ў палітыцы — гэта эпоха! Мае мінскія знаёмыя з сямідзесятых гадоў некуды пазнікалі, сцішыліся. Будучы кліентамі наменклатуры, цяпер хварэюць яны па шпіталях або ходзяць на лячэбныя працэдуры. Расплачваюцца прадчасна закончанымі кар'ерамі і здароўем. Звычайная цана ў гістарычны пералом.

Алесь Бажко з прэтэнзіямі на інтэлектуальнага энкавэдзіста беларускай літаратуры адыйшоў у нябыт. Дакладна аніхто не ўспомніць пра яго, хаця б брыдкім словам праклёну. А яшчэ ж нямногімі гадамі дагэтуль і кніжку сваю паклёпніцкую быў выдаў ён масавым тыражом ды пад шум пахвальных рэцэнзіяў прадажных пісакаў з т. зв. ідэалагічнага фронту. Як прыгадаю сабе ягоныя абвінавачванні ў мой адрас, дык смех пусты бярэ! Сённяшнія камуністы на вярсту перасокчылі тое, у чым абвінавачваў мяне Бажко-інквізітар, і пара перакваліфікаваць мяне ў сучасныя сталіністы... Прыйшлі на памяць і нашы беластоцкія Алесі ды Іваны, не горш таленавітыя адэпты даносчыцкага рамяства, народжаныя паліцыянты.

Заходжу ў выдавецтва „Мастацкая літаратура", каб даведацца, якая нячыстая сіла не дае апублікаваць маю кніжку, дамову на якую падпісалі былі са мною ажно пры Брэжневе! Маё бабскае жаданне роспытаў наконт таго, каму я павінен плюнуць у сабачыя вочы, напаткала слушнае здзіўленне: усе ў фірме новыя і ўпершыню чуюць пра мае жалі. Скончылася нават тым, што давялося аднова фармальна дамаўляцца з выдавецтвам так, як быццам ніколі і не было таго „Договора об издании..." з лета восемдзесят першага. Вось такі фінал маіх пошукаў маральнай сатысфакцыі. У Польшчы папалілі тайныя архівы ў бяснежны люты, каб не дапусціць да ўсенароднай сварні былых ахвяраў з былымі падлыжнікамі, дык і ў іх, у саветаў, пэўна ж тое самае робяць... Спакайней думаючы, трэба прызнаць гэтаму рацыю: помста паніжае, таксама і помсцячага.

Іду па праспекце і, час ад часу, чую блізкі воклiч „Жыве Беларусь!". За каторымсьці разам бачу, што гэта датычыць мяне, бо прышпілены да майго пінжака нацыянальны бела-чырвона-белы значок. Дзякуючы яму, беларус распазнае беларуса. Мне, як мужчыне, асабліва сімпатычна, калі гэткае прывітанне шле ў мой бок з тлуму прыгожая жанчына або пара закаханых.

(Працяг будзе)

## ПОГЛЯДЫ

### АБ СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСІ

*(...) няма сумненняў, што Беларусь асуджана на незалежнасць. Атрымае яе, дзякуючы з'яве, якую называю афрыканізацыяй. Бо, як і ў Афрыцы, некаторыя краіны дабіліся незалежнасці, а іншыя атрымалі яе, так бы сказаць, па аналогіі, так і ў СССР змаганне народаў Прыбалтыкі, Каўказа ці ўкраінскага народа, таксама і Беларусі прынясе незалежнасць.*

*Калі б Беларусі давялося пераадолець тую дарогу, якую прайшла Літва, трэба было б аднаго пакалення. Столькі ж часу спатрэбілася б на распаўсюджанне мовы, на збудаванне спелай нацыянальнай свядомасці, дзякуючы якой мог бы стварыцца рух, падобны на Саюдзіс.*

*Сакрат Яновіч*

*(у інтэрв'ю для газеты „Кур'ер Поранны", № 110 ад 15—17 чэрвеня 1990 г.)*

Вася ад малога быў гаспадаром. Выганяў, засопшыся, нахабных курэй з агародчыка, бег, бліскаючы бруднымі, з рубцамі ад пераразаў шклом голенькімі пяткамі закрыць веснічкі, каб не ўцёк баран, хадзіў следам за дзедам, калі той араў поле. Заўсёды замурзаны, з аблезлым ад сонца носам, задзёрлівым віхарком на галаве, у вечна падзертых сарочцы і штоніках. Ледзь дашаравалі яго, калі вялі першага верасня, хоць вельмі вырываўся, у школу. Не паспеў кролікаў накарміць, і ўвесь святочны ранак ёрзаўся на цвёрдай школьнай лаўцы, каб хутчэй бегчы дахаты.

Вучыўся не найгорш — не быў апошні ў класе. Бацькі не гналі яго сілай да працы, як некаторыя, але Васілёк сам адразу пасля ўрокаў бег упраўляцца і ў поле, і там праводзіў час да цямна. Тады ў вёсцы не было яшчэ электрычнасці і даводзілася сядаць за кніжкі пры газавай лямпе. Вася, ледзь абмыўшыся пасля работы, чысціў шкло лямпы кавалкам „Газеты Беластоцкай", браў скарынку хлеба і сядаў за сшыткі. Калі „нічога не задалі" пісьмова, клаўся адразу спаць. Яму хапала прачытаць толькі перад урокамі.

Паўтараў толькі сёмы клас, гэта з-за матэматыкі і геаграфіі. Пасля восьмага класа пайшоў вучыцца ў прафесіянальную школу ў Беласток, але кінуў навуку пасля першага семестра: не зносіў гарадскога шуму і натоўпу чужых людзей. Калісь прынёс ката ў інтэрнат, думаў гадаваць, але выхаваўца выкінуў ката. Праўда, кот не быў галоўнай праблемай Васі ў інтэрнацкім жыцці; не любілі Васю і хлопцы, смяяліся з яго вясковага акцэнту і скромнай вопраткі, і выхаваўца, які проста не любіў Васю і спецыяльна яго паніжаў пры калегах (не яго аднаго), а па-п'янаму ўмеў і ўдарыць. Вася вярнуўся дадому яшчэ перад першым бацькоўскім сходам і больш не паехаў у школу.

— Ну, нічога, — сказалі бацькі. Малодшага сына, які вучыўся вельмі добра, рашылі вывучыць „на пана", а Васілёк і так вярнуўся б на вёску.

Думалі раней: Вася скончыць школу, пойдзе працаваць меха-

## НАША ПОШТА

### ЖЫЎ ПАЭТ У ЦЕХАНОЎЦЫ

Ужо даўно іду я па слядах абхазскага паэта Леварса Квіцынія, жыццё і талент якога згарэлі ў полымі баёў пад Беластокам у чэрвені сорак першага. Гэта прывяло мяне ў „Ніву". Можа, хто з чытачоў адгукнецца і дапаможа ў пошуках.

Восенню 1939 г. Леварса Квіцынія прызвалі ў Чырвоную Армію. Тады ён быў ужо вядомым паэтам, аўтарам некалькіх кніг на абхазскай і рускай мовах. Служыў ён у Цеханоўцы (зараз Ломжынскае ваяводства). Там напісаў паэму-драму „Абрскіл" (абхазскі варыянт легенды аб Праметэі), дзесяткі вершаў. Там і сустрэў вайну.

Вясной 1940 года наведаць Л. Квіцынія ў Цеханоўцы прыязджала з Сухумі яго жонка Тамара Іванаўна з шасцімесячным сынам Даурам. Спадарожнічаў

пакрыўджаны акоўскімі бандамі ўжо пасля вайны. Усе яны баяцца нават падаваць свае прозвішчы, хаця ў выніку тэрору тых бандаў патраціл бацькоў, сыноў, а нярэдка і гонар чалавечы, бо, напрыклад, былі жанчыны, якіх стрыглі нажом за тое, што яны мелі праваслаўных мужоў.

Пытаю, хто тут каго павінен баяцца і хто павінен дамагацца помсты? Але, як бачыце, цень фашызму, гітлераўскага ці свойскага, вісіць яшчэ над намі ды і пагражае: адзавіся і скажы пра мяне праўду, дык твая хата пойдзе з дымам, а сам можаш згінуць у нявысвененых абставінах. І сумленныя людзі баяцца, а злачынцы ходзяць з паднятымі галовамі.

**Васіль Петручук**

## Свойскія малюнкі



*Вуліца ў Тыкоціне. Мал. У. Петрука.*

ёй бацька — Іван Іосіфавіч Гулія, родны брат заснавальніка абхазскай літаратуры, складальніка абхазскай азбукі, выдатнага паэта Дзмітрыя Гулія. Леварса Квіцынія атрымаў кароткі водпуск і на некалькі дзён з сям'ёй і цесцем пасяліўся ў вёсцы Малец каля Цеханоўца. Гаспадары, як расказвала мне Тамара Іванаўна, простыя сяляне, цёпла і сардэчна прынялі іх. Шчаслівая сямейная сустрэча праляцела ў адзін міг. Не суджана было Квіцынію вярнуцца ў Сухумі, пабачыцца з роднымі і блізкімі...

Тамара Іванаўна не памятае прозвішча гасцінных гаспадароў з Мальца. Да сёння ўдзячна яна ім за ўвагу і турботы. Дзе, у каго жылі тады госці з Каўказа?

У Падмаскоўі мне ўдалося знайсці Івана Канстанцінавіча Сакалова. Ён служыў на пагранічнай заставе пад Цеханоўцам. Зранку 22 чэрвеня уступіў ён у бой пад Цеханоўцам. Іван Канстанцінавіч расказаў такую гісторыю.

На другі дзень вайны ён з групай таварышаў адыходзіў у напрамку Беластока па чыгунцы. Да пагранічнікаў далучылася некалькі байцоў з розных вайсковых часцей. Сярод іх вылучаўся энергічны, рашучы і смелы воін-каўказец. Сябры звалі яго Квіцыкам. На адным з кароткіх прывалаў Квіцык чытаў вершы спачатку на незразумелай для іншых мове, потым у перакладзе на рускую. Гэта былі вершы аб каханай, аб доме, дзе чакаюць байца з перамогай. Па меркаванню Сакалова гэта быў Леварса Квіцынія. Сыходзіцца і партрэтныя апісанні.

На чыгунцы паміж Лапамі і Беластокам гітлераўскія самалёты абстралялі і збамбардавалі групу. Загінула дзевяць чалавек, у тым ліку і каўказец, якога звалі Квіцыкам.

— Мы іх пахавалі недалёка ад месца гібелі. Палітрук сабраў дакументы загінуўшых. Напісаў іх прозвішчы на кавалку фанеры і замацаваў яго на магіле. Мы паклалі туды пілоткі і фуражкі загінуўшых, — расказаў Іван Канстанцінавіч.

Ён дэталёва апісаў месца пахавання. Яно знаходзіцца 5—7 км ад станцыі Беласток, на скрыжаванні чыгункі з палявой дарогай. Справа па маршруту групы быў невялікі будынак каля пераезда, напэўна, будка пуцявога абходчыка, далей, прыкладна ў 200 м, пачынаўся лес. Магілу выкапалі ў 5—6 м ад будкі, каля палявой дарогі.

Можа, хтосьці бачыў гэтую магілу, перапісаў з фанернага лістка прозвішчы загінуўшых? Ці захавалася гэта магіла, ці байцоў перахавалі ў іншае месца?

Вельмі мала вядома аб даваенным перыядзе жыцця і творчасці Леварса Квіцынія. Не дайшлі да нас многія вершы, напісаныя ім у гэты час. Быў у яго запаветны куфэрак з рукапісамі. Леварса, як успамінае Тамара Іванаўна, вырашыў не адпраўляць рукапісы дахаты. Пасля службы ён збіраўся заехаць у Маскву да Канстанціна Сіманава, з якім вучыўся ў Літаратурным інстытуце, і разам з ім падабраць вершы для кніжкі.

Няўжо назаўсёды загубіліся рукапісы Леварса Квіцынія або згарэлі ў пажары першых дзён вайны? Хочацца верыць і ў цуда, што яны захоўваюцца дзесьці ў добрых людзей.

Цікавіць мяне літаральна ўсё, што датычыць Леварса Квіцынія, кожны штрых, які дапаможа высвеціць яго лёс. Сын паэта Даур і аўтар гэтых радкоў будуць удзячны за ўсе весткі.

**Міхаіл Кадэт, журналіст,**
**220053, г. Мінск**
**вул. Асіпенка, 2, кв. 145.**

# ВАСЯ-ВАСІЛЁК

нікам у „кулка", жывы грош будзе, гаспадарку падцягнуць, і будзе больш грошай на адукацыю малодшага. Цяпер, калі Васілёк быў у хаце, было больш рук да працы, але і больш ратоў да яды. Адась яшчэ быў у шостым класе. Калі б Вася скончыў праз два гады школу, было б якраз добра паслаць малодшага ў які добры ліцэй ці ў Варшаву... А так — Вася рабіў, як усе, на гаспадарцы — а на падатак грошы давай з прададзенага ўраджаю, а і самому есці ж трэба. Чалавек сваёй працы не лічыць. Гаспадарка стаяла кепска, але галоднымі не хадзілі: сабе якое свінчо два разы ў год закалолі, малако пілі ды бульбай заядалі і хлебам сваім.

Вася ніколі не прасіў бацькоў, каб яму нешта купілі новае. Меў адзін касцюм, які ў нядзелю апранаў ці на якое вяселле, а цэлымі днямі лазіў у ціку. Калі трэба было, маці выцягвала які грош з панчохі і давала на чаравікі ці кашулю.

— А Адась, можа, там не мае чаго есці? Трэба было б яму што паслаць, — часта пагаварвала маці. — І джынсы купіць, усе цяпер ходзяць у такіх нагавіцах. Ты, Вася, бачыш, калі б вучыўся, ужо быў бы на сваім, а так толькі табе купляй і купляй, усё дзярэш. Во, бачыш, рукаў на вяселлі сінькаю запэцкаў, чаго ты цёрся аб сцены?! Напіўся, як бонк! І ты, Ёзік, які прыклад даеш сыну роднаму?! Ледзь вас дацягнула дахаты!

Усе ў вёсцы пілі. Ды куды дзецца? Святліца тады была развалена, два тэлевізары былі ў суседняй вёсцы. Пасля, калі і ў іхнюю вёску правялі святло, і яны купілі тэлевізар. Але колькі ж будзеш сядзець у хаце?

З равеснікаў мала хто вярнуўся ў вёску. Малодшыя выпырхнулі яшчэ хутчэй. Адась пайшоў далей вучыцца, у сталіцу. Не часта бываў дома, хіба што каб грошай узяць ды харчоў. Стыпендыя, хоць даволі вялікая (небагатыя бацькі), хутка працякала праз пальцы. На трэцім курсе ажаніўся Адась з аднакурсніцай - варшавянкай, пасля пачаў будавацца ў Пясэчне.

Вася прылёг на плуг.

— Які ж наш Васілёк добры, калі цвярозы! І паслухмяны, і спакойны, і працавіты. Такое дзіця — ад Бога, — цешылася маці.

Вася пасябраваў з Міколам і Хведарам. Старэйшыя ўжо кавалеры, якім ужо нідзе не дастаць гаспадыні дахаты, сардэчнага сябра-жонкі на нялёгкае вясковае жыццё. Да іх „дабіў" і Васілёк, якому набліжалася трыццатка. Хлопцы для жартаў падалі яго дадзеныя ў „Пазнаёмімся" ў „Кур'еры Падляшскім", заплацілі грошы за аб'яву.

Пачалі сыпацца лісты з усяе паўночна-ўсходняй Польшчы ад адзінокіх дзяўчат, якія шукалі не толькі магчымасці выйсця замуж, але і духоўнай апоры пры іншым чалавеку, — ад каталічак і праваслаўных, ад адукаваных і не. Наймалодшай было 20 год, найстарэйшай — 35. Вася на ўсе лісты шчыра адказваў. Прыйшлі прапановы першых сустрэч. Асабліва адна дзяўчына спадабалася Васю — настаўніца яго ўзросту, любіла і шанавала людзей і звяроў, кахала прыроду і так, як і Вася, ад іншых патрабавала толькі хоць кропельку ўвагі і пашаны да працавітага і сумленнага чалавека.

Вася дагаварыўся на сустрэчу — і не паехаў. Пабаяўся: не спадабаецца, можа. Няма ў што апрануцца, і як ён будзе весці сябе ў кавярні? Каб толькі не адчуць сябе, як той выкінуты кот. І зноў акажацца, што ён добры толькі да работы ў полі і ў падхмеленай кампаніі?

Вася не паехаў. Напісаў і Галіне, і іншым дзяўчатам, што выязджае далёка, а калі вернецца, напіша. Галіна больш не напісала.

Вася ходзіць цяпер на Нарву з вудачкай, доўга там сядзіць, курыць. Гаворыць, што гэта яго супакойвае. Але рыба не бярэцца.

**Міра Лукша**

# СВЯТА ПАЭЗІІ

(Працяг са стар. 1)

юць свечкі і праўнукі Багушэвіча з Польшчы.

Ля рэстаўраванага дома-сядзібы Багушэвічаў у вёсцы Кушляны сардэчна вітае гасцей гаспадыня ўрачыстасці С. Шмыга. Старэнькаму Міхасю Ляпеху, які на працягу дзесяцігоддзяў беражліва збіраў і захоўваў усё звязанае з сядзібай Багушэвіча, даручана перарэзаць чырвоную стужку ля ўвахода ў дом-музей. Пераступаючы з хваляваннем парог музея, пераносімся ў мінулае стагоддзе. У пярэдняй паляўнічы куточак, далей вялікі гасцінны пакой, кабінет паэта. Многія экспанаты перададзены сюды музеямі рэспублікі: піяніна, крэсла Багушэвіча, шкатулка, у якой паэт перахоўваў рукапісы і пісьмы, сямейны альбом. На сцяне вянкі, якія былі ўскладзены на яго магілу дзевяноста год таму назад. Тры залы займае літаратурная экспазіцыя: копіі пісем і фатаграфій, дакументы і кнігі. Тут знаходзіцца сцяг і зброя паўстанцаў 1863 года, а таксама слаўныя дудка беларуская і смык беларускі са скрыпкай.



*У адной з залаў дома-музея Францішка Багушэвіча.*

З музея госці накіроўваюцца маляўнічай алеяй у напрамку Лысай Гары, да вялікага валуна, ля якога любіў працаваць і адпачываць паэт. Чытаем высечаныя на камені словы: „Памяці Мацея Бурачка".

На скошаным лузе ўзвышаецца са смольных дошак сцэна, з вялікім каляровым партрэтам Багушэвіча ў абрамленні вышываных ручнікоў. Лапоча на ветры бел-чырвона-белы сцяг.

Пачынаецца „Мая дудка" — літаратурна-музычная пастаноўка народнага паэтычнага тэатра „Волат". Самадзейнікі чытаюць вершы і пісьмы паэта.

Запрашаюць на сцэну пісьменнікаў. З уступным словам выступае старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР В. Зуёнак. Ён запрашае да мікрафона і прадстаўляе выступаючых. Сваімі думкамі аб вялікім земляку падзяліліся і прачыталі вершы каля дваццаці паэтаў рэспублікі, тры паэты з Ленінграда, А. Анішчык з Вільні і я з Польшчы. Сокалаў-Воюш выступіў з невялікім канцэртам.

У другой частцы спяваў Дзяржаўны народны хор БССР, затым выступіў ансамбль народнай музыкі, песні і танца „Свята".



*Выступаючы перад мікрафонам, я перадаў самыя шчырыя прывітанні ад беларусаў з Беласточчыны.*

Выступаючы перад мікрафонам, я перадаў самыя шчырыя прывітанні ад беларусаў з Беласточчыны. Сказаў, што постаць Багушэвіча вядома таксама і ў Польшчы, асабліва ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне. Творы вялікага паэта вывучаюць вучні пачатковых школ, вучні Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў, студэнты кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Паэтычная творчасць Мацея Бурачка натхняе членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". „Белавежцы" як эпіграф да сваіх твораў выкарыстоўваюць заклік-перасцярогу: „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі", які да сёння вельмі актуальны як у Беларусі, так і ў нас, на Беласточчыне.

Прыгадаў я, што Багушэвіч зачытваўся перадавой польскай літаратурай і ўтрымліваў сяброўскія кантакты з многімі выдатнымі палякамі, асабліва з Я. Карловічам, этнографам, мовазнаўцам і музыказнаўцам, які, між іншым, збіраў, апрацоўваў

ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАЗІМІРА СВАЯКА

# ПОЛЬСКА-БЕЛАСТОЦКІ ПЕРЫЯД

**(Паводле дзённіка „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі")**

Роля беларускага каталіцызму ў гісторыі беларускай культуры немалая, а на пэўных этапах яе гістарычнага развіцця — выключная, хоць, як мне здаецца, і дагэтуль недаацэнена.

Гэта праўда, што каталіцызм ў яго польскім выданні быў выдатнай зброяй у асіміляцыі беларусаў ці ўкраінцаў, але з другога боку, закараніўшыся ў беларускай глебе, супрацьдзейнічаў гэтай асіміляцыі з не меншай сілай. Уклад беларусаў з каталіцкай радаслоўнай у адраджэнне беларускай культуры на працягу XIX і пачатку XX стагодзя бясспрэчны і выключны. Гэта не абазначае зусім, што хачу я тут паменшыць такі ж уклад у развіццё нацыянальнай культуры з боку праваслаўных беларусаў.

Здаецца мне, што на Беларусі праходзіў нейкі сінтэз розных культурных плыняў, у выніку якога стварылася новая якасць — культура беларусаў. Адным з іх было спалучэнне культуры мясцовых плямёнаў, магчыма, з культурай балтаў, а затым з магутнай візантыйскай культурай, якая ў сваю чаргу падвяргалася ўздзеянню заходняй цывілізацыі. На грані гэтага ўздзеяння якраз і ўзнікла новая якасць.

Казімір Сваяк (1890—1926), стагоддзе з дня нараджэння якога святкуем сёлета, быў адным з прадстаўнікоў беларускага рамантызму. Нарадзіўся ён у вёсцы Барані на Астравеччыне, але жыццёвы лёс кідаў яго ў розныя мясцовасці, у тым ліку ў Польшчу і на нашу Беласточчыну. Пасля заканчэння народнай школы Сваяк, а фактычна Канстанцін Стаповіч, вучыўся ў павятовай школе ў Свянцянах. З восені 1906 г. у Сваяка наступае перыяд павышанага зацікаўлення рэлігіяй. Будучы паэт рыхтуецца паступіць у семінарыю, але адначасова, як сам піша, займаецца „крыху беларушчынай". Несумненна, вялікае ўражанне робіць на яго Вільня са сваімі саборамі, якую ён часта наведвае.

У 1909—1911 г.г. Сваяк вучыцца ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі. У той час упершыню наведвае ён Варшаву і Чэнстахову (у красавіку 1911 г). У 1912 г. паэт атрымоўвае ступень духоўнага дыяканату, піша свой першы верш, але ў гэты ж час пачынае ў яго развівацца невылечная хвароба. Так, як Цётка (Алаіза Пашкевіч) ці Іван Луцкевіч, Сваяк перыядычна ездзіць лячыцца ў Закапанэ. Ад 1913 г. паэт друкуецца ў беларускіх газетах — „Нашай ніве" і „Беларусе". У 1915 г. малады пісьменнік быў высвечаны на ксяндза і пачаў сваю працу ў мясцовасці Камаі. Той час так ён успамінае:

„5-VIII. 3-га жніўня прыехаў на свой вікарыят у Камаі. Беларусь шчырая. Нават разгаварыцца іначай трудна. Касцёл падобны да нейкай крэпасці з сярэдніх вякоў. Пробашч чалавек залаты. (...)

Мыслі сумныя не пакінулі мяне. Здаецца мне, што духоўная старана майго жыцця змалела. (...) Беларушчына жыва мяне інтэрэсуе. Баліць мне сэрца, як чую жаргон тых, што хочуць кінуць мову родную на карысць чужой. Але я нікому ня кідаюся з сваім поглядам на гэту справу. Магу я мыліцца пад тым узглядам, што беларуская мова заваюе сабе права між народаў, але ніхто мяне не пераканае (...). Гэта працўна і нашай гісторыі і нашаму бытавому пачуццю".

Плённа працуе Сваяк на роднай ніве на сваёй радзіме ў Клюшчанскай парафіі. Тут арганізуе ён гурток беларускай моладзі „Хаўрус сваякоў" — з хорам і драмгрупай, якая 12 чэрвеня 1916 г. ставіць яго нную п'есу „Праклённае зелле (Янка Канцавы)" пра выкрыццё манапольскі і атрутнасць п'янства. Супольна з іншымі заснаўвае ён сем беларускіх школаў. Але дзейнасць гэтая не ўсім падабаецца. Як піша пісьменнік: „Работа пайшла ахвотна, хоць некаторыя гаспадары спачатку крывіліся на язык „просты"...



Паўсталі такжа проціў мяне і паны. Яны былі нездаволены з майго сяброўства з „простымі". Даказвалі яны народу, што беларушчына — справа шкодная

і выдаваў беларускі фальклор, і з Э. Ажэшка. Дзякуючы дапамозе польскіх сяброў, Багушэвіч змог выдаць свой паэтычны зборнік „Дудка беларуская“, які пад псеўданімам Мацей Бурачок быў нелегальна выдадзены ў Кракаве ў 1891 годзе, і другі зборнік — „Смык беларускі“, штс пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава ўбачыў свет у Познані ў 1894 годзе.

Багушэвіч быў так моцна звязаны з польскім дэмакратычным рухам, што прыняў непасрэдны ўдзел у студзеньскім паўстанні 1863-64 гадоў. У сутычцы з казакамі быў паранены ў Аўгустоўскіх лясах пад Сувалкамі. З-за пагрозы рэпрэсій ён некаторы час лячыўся на хутары ў сям'і Крушэўскіх пад Беластокам.

У Польшчы пражывалі тры ўнучкі Багушэвіча, аб якіх пісаў у „Ніве“ М. Канапацкі. Іх дзеці прыехалі на Свята свайго прадзеда.

На заканчэнне маёй пабыўкі ў Беларусі давялося мне гасцяваць у Мінску. Там я зноў пабываў на канцэрце Сокалава-Воюша, што праходзіў з вялікім поспехам у Доме літаратара.

Сяржук Сокалаў-Воюш, з якім мы пазнаёміліся і абмяняліся сваімі паэтычнымі зборнікамі, паінфармаваў мяне, што мае ўжо запрашэнне ў Польшчу і ў жніўні наведае з канцэртамі Беласточчыну. Прасіў ён перадаць сардэчныя прывітанні беларусам у Польшчы.

**Віктар Швед**

Фота Уладзіміра Крука

# Белавежскі дом культуры



*Ужо відаць контур новага дома культуры.*

Драўляны будынак, у якім месцацца гмінны асяродак культуры (ГОК), кіно і бібліятэка, быў збудаваны яшчэ ў даваенны перыяд. За гэты час прайшоў ён некалькі рамонтаў. Апошні з іх прадоўжыў жыццё будынка ненадоўга. З пачаткам 1981 г. было зачынена кіно. Супрацьпажарная інспекцыя даказала, што будынак не гарантуе бяспекі кінагледачам. ГОК і бібліятэка яшчэ некалькі гадоў пратрымаліся. У гэты час гмінныя ўлады настойліва клапаціліся, каб пачаць перабудову ўсяго будынка. Дабіліся яны гэтага ў канцы 1984 г.

Калі майстры падрабязна агледзелі аб'ект, аказалася, што трэба перапрацоўваць ранейшы план мадэрнізацыі. У памяшканні, дзе мела знаходзіцца канцельня (яе абсталявалі побач, у новым школьным будынку) уладкуецца клуб-кафэ. Большую плошчу на кнігазбор атрымае бібліятэка. Знайшлося месца і на чытальні для дзяцей і дарослых. ГОК, у сваю чаргу, будзе нарэшце мець майстэрні; некаторыя з іх пачнуць нават даваць даход. Усе памяшканні атрымаюць арыгінальнае прыбранне. Сцены ўпрыгожаць карціны, намаляваныя мастакамі на пленерах у Белавежы.

Перабудова, праўда, значна зацягнулася ў часе. Пачатковыя спадзяванні, што закончыцца яна ў канцы 1987 г., даўно ўжо развеяліся. Але ўжо праца ўваходзіць у апошні этап. Галоўны выканаўца інвестыцыі — рамесны кааператыў з Гайнаўкі плануе аддаць будынак у карыстанне, калі не цалкам, то прынамсі часткова, у канцы гэтага года.

Пастарайцеся, будаўнікі! Белавежцы на свой дом культуры чакаюць з вялікай нецярплівасцю.

**Тэкст і фота Пятра Байко**

---

для каталіцкага касцёла, што шырыць умілаванне гэтай „рускай“ гаворкі ня мае сэнсу, што касцёл тутэйшы быў заўсёды польскім і г.д. Адзін з іх перадаў вестку ў Вільню, што парафія Клюшчаны беларусіцца“.

Патрыятычная дзейнасць Казіміра Сваяка прыходзіцца, відаць, не даспадобы антыбеларуска настроеным касцельным уладам. Маладога паэта-рамантыка перакідаюць яны больш на захад, у Карыцін, што на нашай Беласточчыне. Але і тут жывуць беларусы. У канцы 1916 г. пад пільным вокам пробашча Сваяк пачынае тут сваю працу ў „блудным коле“. На першыя правы „беларускага духа“, як піша святар, у людзей „загарэліся“ вочы. Але тут жа атрымаў ён наганяй з боку пробашча. Паэт-святар трапляе ў канфлікт са сваім сумленнем. Аднак, Беларусь „жыла“ і тут сярод насельніцтва Карыціна і выклікала сярод яго самы жывы водгук.

У 2 (18) нумары бюлетэня „Хрысціянскія навіны“ (люты 1990 г.), які выдаецца ў Ватыкане, надрукавана публікацыя „Стагоддзе нараджэння Казіміра Сваяка — беларускага каталіцкага святара!“. З яе можна зразумець, што быццам бы Сваяк арганізаваў беларускія школы ў сваёй парафіі ў Карыціне. Аднак, хоць мы ведаем пра гэтую ранейшую дзейнасць паэта, у ягоным дзённіку „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі“ (Вільня, 1932), не знаходзім фактаў, якія б пацвердзілі гэта.

Беларускія казанні Казімір Сваяк працягваў гаварыць у 1919 г. у Лапеніцы, што пад Ваўкавыскам. І толькі ў канцы 1920 г. духоўныя ўлады назначылі беларускага святара сталым пробашчам у Засвіры, аднак пад пільным вокам дэфензівы. Хварэючы ад 1912 г. сухотамі, паэт памёр у 1926 г.

Постаць Казіміра Сваяка цікавая тым, што быў ён другім побач з Андрэем Зязюлем (сапр. Аляксандр Астрамовіч — 1878—1921) беларускім паэтам-ксяндзом адраджэнскага кірунку. Трэцім быў ягоны равеснік Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч — 1890—1978). І хоць не належаў ён да паэтычных шліфавальшчыкаў слова, паэзія ягоная шчырая сваім лірызмам, хваляваннем, экспрэсіўнасцю. Нягледзячы на раздвоенасць сваёй душы, выкліканую абставінамі, у якіх давялося яму жыць і працаваць, быў паэтам грамадзянскага бунту і непакоры. Сваю творчасць Сваяк пачынаў, акрамя першых паэтычных спробаў, публіцыстычным трактатам пра шкоднасць п'янства „Алкаголь“ (1913). У 1920 г. з'явілася яго п'еса „Янка Канцавы“, а затым вядомы зборнік вершаў „Мая ліра“ (Вільня, 1924), лепшыя здабыткі якога Алег Лойка параўнаў з лірычнай паэзіяй аднаго з пачынальнікаў французскага сімвалізму Поля Верлена (1844—1896).

Апрача таго, Сваяк — аўтар вершаванага апавядання „Чарку дай, браце“ (1926), драматычнай паэмы „Купалле“ (1930) і славутага дзённіка „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі“ (1932), дзякуючы якому да нашых дзён дайшлі звесткі пра жыццё і патрыятычную дзейнасць паэта на роднай ніве, у тым ліку ў Польшчы і на нашай Беласточчыне.

Дзённік гэты быў выдадзены ў Вільні выдавецтвам „Хрысціянская думка“, а ягоным рэдактарам-выдаўцом з'явіўся ксёндз Адам Станкевіч. У пасляслоўі знаходзім у ім такія заўвагі рэдактара: „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі“ — гэта запіскі Казіміра Сваяка аб ягоным жыцці ад дзяцінства да 1925 г. уключна. З наступнага 1926 г., як бачым, няма ніякіх запісак, бо ў гэтым годзе песняра-мысліцеля сярод нас нястала. Рукапіс „Дзеі“ быў у свой час польскімі ўладамі арыштаваны і далучаны да судовай справы, якая прыгатаўлялася Сваяку за беларускасць, але якая з нястачы доказаў была скасавана. Быў тады такжа вернуты і рукапіс гэтай „Дзеі“.

У выдадзеным ксяндзом Адамам Станкевічам дзённіку Казіміра Сваяка 71 старонка і 12 раздзелаў. З іх найбольш нас цікавіць раздзел VI („У Закапаным. Пачатак вайны. Канец дыяканату“) і X („На другім вікарыяце — у блудным коле“), які непасрэдна датычыць душпастырскай працы Сваяка ў парафіі Карыцін, што на нашай Беласточчыне. Праца тут сапраўды была „блудным колам“ з увагі на спецыяльны нагляд над ім з боку пробашча, і таму гэты перыяд ягонага жыцця не ўсім можа паказацца цікавым. Аднак, для нас з'яўляецца важным ужо сам факт знаходжання паэта ў гэтай, аддаленай на сорак кіламетраў на поўнач ад Беластока мясцовасці, у якой спакон вякоў пражывалі і пражываюць далей беларусы каталіцкага абраду. Ужо праз сам гэты факт Карыцін павінен у свядомасці сучасных беларускіх пісьменнікаў Беластоцкага краю, а таксама ягонага насельніцтва, з'яўляцца своеасаблівай літаратурнай Меккай. Так сама, як і Далістова, у якім жыў і працаваў вядомы беларускі пісьменнік Вінцук Адважны (Язэп Германовіч).

Каб так сталася, прапаную увазе чытачоў у наступных нумарах „Нівы“ фрагменты дзённіка Казіміра Сваяка „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі“.

**Юры Трачук**




## ВАЛУН

Менш-больш у палове дарогі паміж Сакамі і Зубавам, што на Бельшчыне, побач з гасцінцам урос у зямлю валун. Рознае людзі аб ім гаварылі.

Даўным-даўно, у часы паншчыны, недзе непадалёк, мабыць, ад паблізкай Суботкі, стаяў двор і жыў у ім багаты, прыгожы, зусім яшчэ малады пан. Ажаніўся ён з шмат маладзейшай за сябе паняй. Жанчына была казачнай прыгажосці. Многія за ёю азіраліся. Але што з тае прыгажосці, калі была яна гультайкай і вялікай распусніцай. Адну сябе толькі любіла. Увесь час перад люстэркам сядзела, малявалася і валасы часала. Адны танцы ды гулянкі ў галаве былі. Да працы і пальцам не прыкладвалася. Смуціла моцна гэта мужа, але пані і ў галаву не брала яго лаянак і пагрозаў.

— Калі людзей табе не сорамна, дык хаця Бога пабойся, — гаварыў ёй муж.

Але пані зусім не пераймалася гневам божым.

Ішлі гады, пані старэла і траціла сваю прыгажосць. Штораз менш цікавіліся ёю. Не паспела яна і азірнуцца, як смерць пачала набліжацца. Пані моцна захварэла і надобра злегла ў ложак. Доўга яна мучылася. У тых муках і сваю прыгажосць праклінала, і бацькоў сваіх рутала, і на Бога плявузгала. Урэшце, зусім сілы апусцілі яе, і пані абамлела. Калі вярнулася свядомасць, паклікала яна да сябе мужа, каб развітацца з ім назаўсёды. Пры тым просьбу адну да яго мела.

— Калі памру, — кажа, — не закопвайце мяне адразу. Пакіньце мяне адну ў пустым пакоі, і хай толькі адна дзеўка ля мяне сядзіць праз тры дні і тры ночы. Потым зрабіце, што захочаце.

У такой хвіліне адмаўляць нельга, ды і каму гэта перашкаджае, што памершая паляжыць тры дні. Было гэта восенню. Надвор'е стаяла сумнае. І калі пані мела ўжо выпусціць з сябе апошні дух, наплылі цёмныя хмары, забілі перуны, заблішчэлі маланкі і падняўся страшэнны вецер. Так адыходзіла пані душа. Усё заціхла, калі закрыла яна вочы.

Як паабяцаў пан сваёй жонцы, так і зрабіў. Апранулі нябожчыцу ў прыгожую вопратку і пакінулі ў яе пакоі. Ніхто да яе не заходзіў, ніхто не наведваў. Адна толькі дзяўчына, згодна з воляю, сядзела ля яе і моцна ўсё гэта перажывала.

Мінуў адзін дзень, настаў другі, ноч прайшла і на трэцюю ноч пачало нешта дзіўнае дзеяцца. Калі настала самая поўнач, глядзіць дзяўчына — а нябожчыца ўстае. Як бы нічога не здарылася, сядае яна перад люстэркам і давай на сябе мазідлы розныя накладваць. А на двары вецер аж енчыць. Дзяўчына стаіць перапалоханая, але пані адварочваецца і супакойвае яе, што, моў, нічога дрэннага з ёю не здарыцца, калі будзе выконваць усе просьбы.

— А цяпер, — кажа пані, — ідзі ў склеп і прынясі мне пляшку віна. А пры гэтым паглядзі, ці нікога там няма.

Пайшла дзяўчына. Адкрыла склеп — а там пры запаленай свечцы нейкі малады паніч сядзіць, апрануты, як да шлюбу. Схапіла яна пляшку віна і на гару чым хутчэй. Падала пані віно і расказвае, што бачыла.

— Не тое прынесла, — кажа пані. — Ідзі па наступную і прыглядзься, ці ніхто не прыбыў.

На гэты раз у склепе сядзелі два панічы. Паслала яе пані і трэці раз. Калі дзяўчына вярнулася і заявіла, што там ужо трое сядзяць, пані ўстала і загадала ёй ісці за сабою. Падыйшлі да склепу. Адчыніла пані дзверы, і раптам як ні грукне пярун, як ні сарвецца вецер. Загучэла, загрымела і ўсё знікла. Асталася толькі адна дзяўчына ні жывая, ні мёртвая. І кажуць, што ў тым часе ля зубаўскага гасцінца велізарны камень паявіўся. З той пары кожную ноч сядзіць на тым камені пані і люльку курыць. А днём, калі праходзіш ля гэтага месца, так і глядзі, што спатыкнешся.

**Міхась Шаховіч**




Дарагое Сэрцайка, мой муж жыве так, быццам бы быў кавалерам. Нягледзячы на тое, што мы маем двое дзяцей, грошы дае альбо не дае, прыходзіць калі хоча, часамі выязджае і няма яго паўтода, а пасля вяртаецца як ні ў чым не бывала і зноў жыве з намі. Патрапіць нават зварыць абед, накарміць дзяцей, пасля пайграе з імі на гітары, паможа таксама прыбраць у хаце. Толькі адна бяда заўсёды: не хоча даваць грошай. Але я згаджаюся на ўсё гэта, думаючы, што няхай ужо будзе як ёсць, чорт яго бяры з грашыма, абы быў бацька дзецям. І калі ён так вяртаецца пасля некалькіх месяцаў гойсання, я дарую яму ўсё, нягледзячы на ўсё тое, што перажыла. Сорамна мне, аднак, перад людзьмі, калі застаюся адна. Што ім сказаць, як растлумачыць, што муж прыходзіць і адыходзіць? Усё ж такі мы адна сям'я. Суседка мая ўсміхаецца: твой муж, кажа, прыходзіць да цябе на зіму, а на лета ляціць у вырай. Зусім наадварот як у птушак. Я моўчкі зносіла такія ўвагі, хаця сэрца разрывалася ў такія моманты на часткі.

Але вось ізноў прыйшло лета і мой муж, сабраўшы ў сумку нейкія манаткі, ізноў развітаўся са мною. Ізноў свет стаў менш ружовы, ізноў я адна, але думала, што ператрываю і гэтым разам. Мы ж перад Богам бралі шлюб, мы ж муж і жонка і ніхто не можа нас разлучыць, думалася мне. Аднак жа, пару дзён таму назад, я даведалася, што ў майго мужа завялася новая жанчына. Мушу праверыць усе факты і тады хачу падаць на развод. Можа неяк вызвалюся, нарэшце, ад гэтага нешчаслівага кахання і стане мне лягчэй. Людзі дык умеюць жыць. Мае сяброўкі сустракаюцца з не адным мужчынам і не маюць за гэта прэтэнзіі да сябе, а я была верная свайму мужу як сабака, а цяпер дык зусім загубілася. Ну, як я пайду з іншым, хоць бы нават і развялася з мужам?! У мяне ж дзеці, а яны ведаюць свайго бацьку і, калі толькі ён паяўляецца ў нас, абступаюць яго і не адыходзяць ні на крок. Як я магу прывесці ў хату чужога мужчыну? Што я ім скажу? А ісці кудысьці, дык трэба ж пакінуць дзяцей. А ці яны ж у жыцці саграшылі... Растуць дзве цудоўныя дзяўчынкі — адной 12 год, другой 8, а я для абы-якога мужчыны буду занядбоўваць іх?! І вось у такой сітуацыі, дарагое Сэрцайка, я вырашыла напісаць табе і папрасіць нейкай парады.

**Наталля**

Наталля! Думаю, што першай тваёй памылкай была згода на такое свабоднае жыццё твайго мужа. Калі б ты за першым разам не ўпусціла яго ў хату пасля паўгадовай непрысутнасці, дык можа б яму такіх прылётаў і адлётаў адразу адхацелася б. Ты дазваляла яму на ўсё, саграваючы яго сваім гарачым каханнем. Але, відаць, не надта ён баяўся за гэта тваё каханне, калі рабіў, што хацеў. Ну, і вось дачакалася, што табе данеслі пра яго новую жанчыну. А чаму ж бы меў і не завесці яе?! Пэўна, рабіў гэта ўжо не раз, ды толькі пра гэта ніхто табе не сказаў. Наталля, але ці ж пра ўсё трэба гаварыць? Пра некаторыя рэчы ты павінна была ўжо даўно дадумацца сама. Дзе ён мог быць, як не ў іншай бабы... Ці ты была занадта самаўпэўненая, ці проста лятавалася над дзецьмі? Цяпер ужо лямант непатрэбны. Ці будзеш падаваць на развод, ці не, дык ясна адно, што нешта ў тваёй душы ўскалыхнулася. І ты пачынаеш мець прэтэнзію да сябе за тое, што так доўга была вернай свайму мужу. Можа і рацыя твая, што дзецям было б крыўдна, калі б яны бачылі ў тваіх парогах чужога мужчыну. Але ці ж абавязкова рабіць гэта на вачах непаўналетніх дзяцей? Глянь навокал, лета на двары, у парках ад закаханых аж густа, лавачак свабодных не знойдзеш, а для цябе няма іншага месца сустрэч апрача сваёй хаты? Дзеці твае, калі падрастуць, напэўна цябе зразумеюць.

**Сэрцайка**

# Пра выбары без эмоцыі

**(Працяг са стар. 1)**

Нічога дзіўнага, што цікаўнасць журналістаў усё больш прыцягвае Беласточчына, дзе ва ўсходняй яе частцы палітычная тапаграфія пасля выбараў прыкметна адрозніваецца ад рэшты краіны. У Гарадоцкай гміне ў 20-асабовай радзе — 17 радных ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, у Нараўчанскай гміне — на 18-асабовую раду 13 радных ад Беларускага выбарчага камітэта, у Белавежы — на 15-асабовую раду 14 кандыдатаў ад БВК, у Гайнаўскай гміне — на 18-асабовую раду 9 радных ад БВК, у Арлянскай гміне на 18-асабовую раду 9 радных ад БВК, у горадзе Гайнаўка — 7 радных ад БВК, у Бельску — 8, у гміне Мілейчыцы на 15-асабовую раду 9 кандыдатаў ад Кааліцыйнага выбарчага камітэта (беларускага), у гміне Чаромха на 18-асабовую раду 14 кандыдатаў ад Камітэта нацыянальных меншасцяў (беларусаў, палякаў і „тутэйшых"). У гмінах Кляшчэлі, Нарва, Нурэц-Станцыя, Боцькі кандыдаты ад беларускіх выбарчых камітэтаў не наважыліся азначыць свае выбарчыя спіскі словам „беларускі" і пайшлі на выбары як прадстаўнікі групаў насельніцтва (наогул з поспехам). Паасобныя кандыдаты ад БВК прайшлі ў гмінах Супрасль, Бельск і Шудзялава. Не назваўся беларускім Грамадзянскі выбарчы камітэт у гміне Дубічы-Царкоўныя, які ўзяў 13 месцаў у 15-асабовай гміннай радзе. Усё гэта паказвае на цяжкасці, з якімі сутыкаецца статыстык, спрабуючы вызначыць ступень поспеху (ці, магчыма, пройгрышу) беларусаў у сёлетніх выбарах у тэрытарыяльныя самаўправы. Паказвае гэта таксама складаную сітуацыю, у якой даводзіцца дзеячам Беларускага дэмакратычнага аб'яднання праводзіць палітычную інтэграцыю беларускага насельніцтва на Беласточчыне. Вынікі выбараў былі ацэнены на пасяджэнні Галоўнай рады і Краёвай управы БДА як поспех зусім яшчэ маладога беларускага палітычнага руху. Рэальна глянуўшы на сітуацыю, трэба адзначыць, што поспех у маральным аспекце куды большы за рэальныя вынікі. Рэальна БДА зможа праводзіць сваю палітыку у 5—6 гмінах, не напатыкаючы мацнейшай апазіцыі. Але маральны аспект выбараў таксама мае сваё істотнае значэнне: упершыню, у шырэйшым маштабе, этнічныя беларусы Беласточчыны выйшлі са цкарлупіны свае ананімнасці, тутэйшасці.

Адначасова з працэсам палітычнай і этнічнай кансалідацыі ў нашым асяроддзі абрысаваліся і першыя спробы дэзінтэграваць беларускі рух. Паводле старых, выпрабаваных узораў з-пад шыльдачкі „Дзялі і кіруй". Базуючы на ўкаранелых у сялянскім асяроддзі паняццях „рускасці", „тутэйшасці", Аб'яднанне ўкраінцаў у Польшчы стараецца разбіць нацыянальна-рэлігійную еднасць беларусаў Беласточчыны, арганізуючы тут „руска-ўкраінскія", „русінскія", „падляшскія" і богведама якія яшчэ камітэты. Нашы браты ўкраінцы, распыленыя ў выніку акцыі „Вісла" па ўсёй краіне, хіба пазайздросцілі нам нацыянальнага лёсу на Беласточчыне і даўмеліся распыліць і нас, падкінуўшы нам яшчэ крыху „нацыянальнасцяў" на Беласточчыну. Калі грызуцца два слабамоцныя, выкарыстоўвае гэта трэці, сапраўды моцны. Ці ж не так?

**Ян Максімюк**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Оля і Марцін на канікулах

Олі ўжо сем гадоў. Яна збіраецца сёлета ў школу і надта цешыцца гэтым. Жыве Оля ў Варшаве, але кожнае лета прыязджае да дзеда і бабулі ў вёску на Беласточчыне. У Варшаве жыве таксама дваюрадны брат Олі — Марцін. Ён крыху малодшы ад Олі і ніколі яшчэ ан бачыў сапраўднай вёскі. Сёлета Оля папрасіла маму, каб дазволіла ўзяць Марціна да бабулі.

Прыехалі ўвечары, і адразу іх паклалі спаць.

Раніцой Оля ўстала першая, прывіталася з бабуляй і дзедкам, памылася, апранулася і пачала разглядацца па гаспадарцы. Марцін пасля доўгай дарогі спаў доўга. Олі нецярпелася. Яна ўбегла ў пакой, сцягнула з яго коўдру і давай будзіць:

— Уставай, сплюх! Ты ж не прыехаў сюды спаць! Я даўно ўжо ўстала, бабулі памагала...

Марцін хуценька саскочыў з ложка, апрануўся, а Оля пацягнула яго аглядаць падворак. Оля паказвала Марціну розныя прадметы: гэта вілы, гэта граблі, гэта машыны — касілка, малацілка. Усё было такое цікавае, што Марцін і пра снеданне забыўся, хоць паесці любіў.

Бабуля паклікала іх на снеданне. Елі кашу з малаком, жаўцюсенькую яечню.

— А чым гэта бабуля так яечка пафарбавала? — пацікавіўся Марцін.

Оля засмяялася:

— Ой, які ж ты смешны! Тут куры зносяць каляровыя яйкі.

Марцін не зразумеў спачатку таго, што сказала Оля, і захацеў адразу пабачыць такое каляровае яйка, якое зносіць курка. І зноў Оля смяялася, а бабуля сказала:

— Ты такая хітрая, Оля! Сама ўсё ведаеш, а Марцінку ж паказаць трэба.

Пасля снедання бабуля сказала:

— А цяпер пойдзем напоім цялятка.

Яна ўзяла калочак, нагнулася над вядзеркам ды закалаціла ў ім штосьці.

— А што гэта? — пытаецца Марцін.

— Гэта пойла, — адказвае бабуля.

(Працяг на стар. 10)



*На школьным конкурсе „Беларуская песня '90" дзеці з Чыжоў са сваёй настаўніцай Нінай Адамюк. Фота Яніны Чэрнякевіч.*




*Калектыў „Жуpавінкі" са школы № 3 у Бельску.* *Фота Я. Чэрнякевіч*

## Для самых маленькіх

Аўяр'ян Дзеружынскі

### ДЗЯДЗЬКА ДАЖДЖАСЕЙ

Добры дзядзька
Дажджасей,
На палеткі
Дожджык сей.
Завядзі
Ўстаноўку,
Хай працуе
Лоўка.
Дажджавыя кроплі
Сыпні
На каноплі
І на сіні лён,
Каб рос
Хутка ён.
Дзядзька,
Дзядзька дажджасей,
Цёплы,
Добры дожджык сей.

### МЫ СЕЯЛІ МОРКАЎКУ

Мы сеялі
Моркаўку
На гародзе,
Расці, расці,
Моркаўка,
На выгодзе.

Расці, расці,
Моркаўка, чырваненькая,
Расці, расці,
Моркаўка, саладзенькая.

Даглядалі
Моркаўку,
Палівалі,
А ці хутка
Вырасце? —
Мы чакалі.

І вырасла
Моркаўка чырваненькая,
І вырасла
Моркаўка саладзенькая.

Каштавалі
Моркаўку,
Каштавалі,
— Ой, якая смачная, —
Мы казалі, —
Смаката, смаката,
Любата, любата,
Недарэмна працавалі.

### ЛІПКА

Ліпку хлопчык палівaў,
Прыгаварваў-казаў:
— Ты квітней мая красуня,
Піць вады табе нясу я.
Ліпка ўгору
Прыўзнялася:
— Я вадзічкі
Напілася.

### ДАЙ РАБОТУ

— Дай работу,
Мама,
Працаваць
Карціць.
— Ты ж яшчэ
Маленькі,
Трэба
Падрасці.
— Дык расту ж
Марудна,
Пройдзе дзень —
Не ў знак,
Без работы
Нудна
І самотна так.
— Што з табою
Зробіш?
Бульбу абірай.
— Абяру вось бульбу,
Зноў работу
Дай!

# Оля і Марцін на канікулах

(Працяг са стар. 9)

— Бабунька, — кажа Оля, — ты скажы, што гэта зупка для цялятка, бо Марцін не зразумее.

— А ці цялятку будзе смакаваць? — пытае Марцін.

— Хадзі, пабачыш, — сказала бабуля.

Пайшлі ў кароўнік. А там за загарадкаю стаяла на беленькіх, чыстых ножках чорна-белае цялятка.

З радасцю павітала цялятка бабулю, завіляла хвосцікам і праціснулася ў веснічкі, як толькі бабуля іх адхіліла. Усунула сваю мызку ў вядзерца, спрабавала пойла, а пасля, падняўшы ўверх галаву, глянула на Олю. Тая хутчэй працягнула цялятку скібку хлеба.

— А не ўкусіць? — спытаўся Марцін з жахам.

— Не, гэта не сабака, не кусаецца, — адказала дзяўчынка.

— А што цялятка будзе есці на другое? — пытаецца Марцін. Оля зарагатала, а бабуля кажа:

— Не смейся, на другое дамо яму сенка. Але не цяпер, а трошкі пазней.

Шмат яшчэ цікавага бачыў Марцін у вёсцы. Але ніколі не забудзе, як ехаў на фуры з сенам. Такой вялізнай, як гара! Дзед дазволіў ім таптаць сена. Сказаў, што можна скакаць, гэцаць, каб толькі не зваліліся з фуры ды былі далей ад вілаў, якімі ён кідаў сена на воз. Марцін сароміўся прызнацца Олі, што ён крыху баіцца. Але ўсё абышлося добра, толькі шкада было яму каня. Конь напінаўся, запіраўся нагамі, пакуль не выцягнуў фуру на цвёрдую дарогу.

Марцін прытуліўся да дзедкі і кажа:

— Дзедку, калі я вырасту, то зраблю такую машыну, што яна замест каня пацягне такую фуру, бо каню цяжка.

— Ёсць ужо такія машыны, Марцінку, гэта трактар. Толькі ў мяне яшчэ яго няма. Але прыязджай да нас у вёску, бо добры з цябе хлопец, калі і каня шкадуеш.

**Алена Анішэўская**




## ДЗЕ ЦЕНЬ СЯГАЕ

Некалі пры дарозе з Войшкаў у Заячкі стаяла старая жараластая ліпа. Хоць яе сарцавіна даўно абярнулася ў парахно, а вершаліна цалкам змуршэла і абвалілася, але знізу яна кожную вясну кучаравілася густою лістотай...

Біліся тут, кажуць, якіясьці войскі. Біліся не на жыццё, а на смерць... І бачыць адзін военачальнік, што яго войска пахіснулася і пабегла пад націскам ворага. Схапіў ён тады абкаваную жалезам скрыню з грашыма на заплату сваім салдатам і закапаў яе паблізу гэтага дрэва. Частка салдат таго военачальніка загінула ў гэтай бітве, і косці іх ляжаць побач з касцьмі іхніх непрыяцеляў на тых старых могілках, што каля ўрочышча Прыстань пры самай рацэ Нарве. Другая ж частка разам са сваім военачальнікам трапіла ў палон і пайшла ў няволю.

Міналі гады, хадзілі і ездзілі сюды людзі, і расла сабе ўвышыню ды ўшыркі ліпа на пагорку. Ніхто так і не даведаўся б пра закапаны тут скарб. Але ж той военачальнік, дажыўшы да глыбокай старасці ў чужыне, напісаў запавет. Згадаў у ім пра тую скрыню золата і дадаў, што закапаў яе ў тым месцы, куды дасягае цень ліпы.

Прагныя дармовага багацця спадчыннікі мігам прымчаліся сюды і пачалі шукаць таго скарбу. Была якраз раніца, і цень разгалістага дрэва сягаў мо на паўвярсты ці болей. Кінуліся яны капаць. Валяць яму ў рост чалавека, а там няма нічога. Тым часам сонейка паднялося і цень стаў іншае месца паказваць. Давай яны там ямы капаць. Не паспелі і да пояса дакапаць, як цень далей пабег. Капалі яны так, капалі раніцай, апоўдні і ўвечары, а цень вёў іх усё ў новае месца. Капалі яны тыдзень, капалі месяц, спрытна наваколле перарылі і аніяк не маглі на скарб натрапіць. І толькі тады, як са стомы не далі рады ўжо і ног валачыць, зразумелі, што скарбу не знойдуць, бо ў запавеце не было сказана, у якую пару года і дня той военачальнік скрыню з золатам закопваў. Нічога іншага не засталося тым спадчыннікам, як толькі адрачыся ад пошукаў.

Цяпер цень сваім абсягам ужо не спакушае людзей шукаць той скарб. Ад старасці ліпа зусім засохла і звалілася. Нават добра невядома, дзе яна і расла.

**(З кніжкі І. Гурскага „Бяздоннае багацце")**




* * *

СССР, 315321, Полтавская обл., г. Кременчуг, переулок Героев Бреста, 89, кв. 101. Рома Виктория (14 гадоў).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 5, кв. 14. Валера Сычыкаў (5 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 20. Алёша Бельскі (5 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 завулак Загарадны, 3-а, кв. 1. Павел Краўчанка (5 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2-гі завулак Р. Люксембург, 6, кв. 3. Саша Кароль (5 клас).




## ДЗЯЦЕЛ

На ўзлессі — старая сухая яліна. Верхавіна яліны адламана бурай, і ствол тарчыць угору вострай зубчатай развілкай. Ля асновы яліны — куча пустых шышак, шалупіння і дрэвавай парахні.

Гэта — „кузня" дзятла.

А вось і „каваль" — прыляцеў з новай шышкай. Сам увесь стракаты: спінка і талія чорныя, на патыліцы чырвоная пляма, шапачка, грудзі і плечы белыя, аснова кароткага пругкага хваста чырвоная.

За арыгінальную расфарбоўку апярэння ён так і называецца — вялікі стракаты дзяцел.

Гаспадар „кузні" садзіцца на ствол.

На ўзлессі ўсё спакойна. Можна брацца за работу. Але спачатку трэба падрыхтаваць рабочае месца. Мінулы раз дзяцел не паклапаціўся аб гэтым у канцы работы. Даводзіцца наводзіць парадак зараз, хаця з шышкай у дзюбе гэта не вельмі зручна. Таму дзяцел кладзе шышку ў адну лапу, другой лапай трымаецца за кару, апіраецца на пружыністы хвост, адкідвае назад і затым б'е дзюбай па старой шышцы, замацаванай у развілцы зламанай верхавіны. Некалькімі спрытнымі ўдарамі шышка выбіта і падае ўніз. Дзяцел устаўляе ў развілку новую шышку, шчыльную, якая пахне смалой. Мацней, каб добра трымалася, забівае яе дзюбай і правярае, ці замацавалася яна. Шышка трымаецца добра.

Дзяцел яшчэ раз азіраецца і пачынае сваю работу, калі снеданне можна назваць работай. Зрэшты, жыхарам лесу, каб перакусіць, даводзіцца шмат папрацаваць.

І вось у кузні дзятла, быццам стружка ад станка, паляцела луска шышкі. А насенне ён спрытна ловіць і з'ядае. Дзюбай-молатам ён ударае раз за разам. Часам дзяцел спыніцца, сядзе зручней, пракрычыць здаволена „кік-кік" і зноў бярэцца за сваё снеданне-работу.

Каваль увайшоў у такі азарт, што не разлічыў сілы ўдару і незнарок выбіў шышку з развілкі. Шышка паляцела ўніз, чапляючыся за сукі.

Дзяцел падрыхтаваўся да новага ўдару, ды дзяўбці няма чаго. Ён здзіўлены. Што такое? Няўжо снеданне скончылася? Пaглядзеў дзяцел па баках, паглядзеў уніз. Не разумее, куды дзелася шышка. На зямлі шмат іх ляжыць, падзяўбаных і пустых. Дзяцел не прывык бедаваць. Ён — аптыміст. Задорна і звонка пракрычаўшы „кік-кік", ён паляцеў па новую шышку.

Дзяцел паляцеў да зялёнай яліны. Тут ён выбраў лепшую шышку, учапіўся ў яе дзюбай, павіснуў на ёй і пачаў ірваць, дапамагаючы сабе крыламі. Пасля некалькіх спроб шышка адарвалася разам з дзятлам.

Але дзяцел не ўпаў і не пабіўся. Ён тут жа выраўняўся, узмахнуў крыламі і паляцеў да „кузні".

Расправіўшыся з другой шышкай, ён застаўся здаволены снеданнем і ўзяўся за туалет, пачаў прыхарошвацца, чысціць і разраўноўваць пер'е.

**Эдуард Самусенка**
(З кнігі „Дзівосная птушка")

# ЗАГАДКІ

* * *

**То празрысты і вясёлы,**
**То працяглы і густы.**
**Луг яго чакае, поле,**
**А яшчэ — чакаеш ты.**
**Пройдзе ён, і каля хаты**
**Ручаінкі зазвіняць,**
**Выйдзеш, ім бясконца рады.**
**Ты караблікі пускаць.**

(Дождж)

* * *

**Сам не ўмее ён нічога,**
**А ў руку калі ж узяць —**
**Можа нам ён многа-многа**
**Паказаць і расказаць.**

(Алоўак)

* * *

**Госця ноччу завітала —**
**Палатна наткала.**
**Разаслала навакол —**
**Стаў святочна-белым дол.**

(Зіма)

**Міхась Пазнякоў**

А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А





*Паглядзі, чым адрозніваюцца гэтыя малюнкі.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

## ФІЛАНТРОП

— Боб, якая прафесія ў твайго бацькі?

— Ён філантроп.

— А што гэта такое?

— Спачатку ён збірае грошы на дапамогу для бедных афрыканцаў, потым будуе для іх дамы і здае ім у арэнду.

## НА ЭКЗАМЕНЕ

Перад пісьмовым экзаменам:

— Бобі, я ўпэўнены, што не ўбачу, як ты спісваеш.

— Я таксама ў гэтым упэўнены, спадар настаўнік.

## КАБАРЭ

Французскі турыст хацеў цікава правесці вечар у Маскве і запытаўся ў паставога міліцыянера:

— Скажыце, дзе найбліжэйшае кабарэ са стрыптызам?

— У Стакгольме!

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ

Не схацеўшы мяняць сваю прывычку, ужо назаўтра пасля вяселля маладая жанчына ўзялася рабіць гімнастыку. Якраз у гэты момант, калі яна схілілася і галавой дакранулася да падлогі, у пакой увайшоў муж.

Нейкі час ён моўчкі глядзеў на жонку, а потым сказаў:

— Мая дарагая, хопіць, калі ты зранку будзеш проста гаварыць мне толькі: „Добры дзень“.



Мал. Ежы Ліпец





## СТАГТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

681

Для добрасумленнага мана — невыносны цяжар, для прайдохі — лёгкакрылая ўзнёсласць.

682

Змуршэлы пень трактуе зялёнае дрэва як агідную выскачку.

683

Як ні дзіўна, але ў жыцці на многа часцей ідзем пад гару, чым з гары.

684

Сталінскае сонца настолькі асляпляла людзей, што яны магільныя ямы ўспрыймалі як радасную жыццёвую перспектыву.

685

Пад дабрадушнай усмешкай у люльцы Сталіна згарэлі мільёны людзей.

686

Калі няма грошай на званы памяці ў Курапатах, дык прапаную перанесці туды частку званоў з Хатыні.

687

Нялёгка з чалавекам, якому цяжка мяняць свае погляды, але цяжэй з тым, хто мяняе свае погляды вельмі лёгка.

688

Яго гераізм заключаўся ў тым, што, уцёкшы ад ворага, захоўваўся так, як бы вораг уцёк ад яго.

689

Творчасць не корміцца часам, а толькі настроем.

**Алесь Барскі**

## МУЖЫК

*Всё прошло, поредел мой волос*
*Конь издох, опустел наш двор*
*Потеряла тальянка голос,*
*Разучившись вести разговор.*

*Сергей Есенин*

Я цяпер нічога не маю,
Шмат што ў памяці век мой сцёр.
Але ўсё-такі я ўспамінаю
Іншы раз пра сваё жыццё.

Рэвалюцыя нас разбудзіла,
Да вышынь перамог прывяла,
Сілу-моц у душы ўсяліла
І зямлю сялянам дала.

Збудаваў пакрысе я хату,
На багацці займеў разлік.
На палосцы працай заняты,
Усвядоміў, што я мужык.

У мяне і гумно, і клеці,
Збудаванні, як на падбор.
Для кармоў і кароў павеці,
Для жывёлы шырокі двор.

На кірмаш я не крочыў пешы,
Ехаў з жонкай святочным днём.
Конь мой быў між суседскіх лепшы,
Ганарыўся сваім канём.

Ды ў жыцці не бывае ціха,
Уздагон крочыў іншы час.
Наплыло, нібы тое ліха,
На вяскоўцаў слова — калгас.

Узнялі актывісты бучу,
Трактавалі на сходах так:
Трэба ўсім аб'яднацца ў кучу,
Хто не з намі, дык той кулак.

Мне палоскі няма на полі.
Хто пачуе душы маёй крык?
Не араць мне, не сеяць болей.
Без зямлі які я мужык!

Прада мной была невядомасць,
Не ўстаяў я прад цяжкім злом.
Разарылі маю маёмасць,
Што пайшло на карысць, што на злом.

— Дом аддай! — мне сказалі строга, —
Канцылярыя будзе тут.
І прынеслі вусатага „бога“,
Дзе Хрыстос быў, заняў ён кут.

Гаспадарку маю забралі,
Кажуць, моцна мы зажывём.
Мяне ўсё ж у калгас прынялі,
І застаўся я бабылём.

Майму гору зласліўцы рады,
Што я ў гэткай бядзе паніч.
Без гумна, без двара, без гавяды,
Без каня які я мужык!

Я цяпер нічога не маю,
Шмат што ў памяці век мой сцёр.
Але зараз я ўспамінаю
Ўсё часцей пра сваё жыццё.

**Сямён Пацёмкін**

## САВЕТНІКІ

У час візіту ў ЗША Леанід Брэжнеў пачаў спрачацца з прэзідэнтам Джымі Картэрам накошт мудрасці сваіх саветнікаў. Тады Картэр націснуў кнопку і ў пакой увайшоў Хэйг.

— Слухайце, Хэйг, — адазваўся прэзідэнт, — скажыце зараз, хто гэта: сын твайго бацькі, які не з'яўляецца тваім братам?

— Гэта я, — незадумваючыся адказаў саветнік.

Вярнуўшыся ў Маскву, Леанід Ільіч рашыў такім жа спосабам праверыць сваіх блізкіх супрацоўнікаў. Назаўтра выклікае ён свайго саветніка і пытаецца ў яго:

— Скажыце, хто гэта: сын вашага бацькі, які не з'яўляецца вашым братам?

— Таварыш генсек, цяпер не скажу, але дайце з тры дні задумацца, — гаворыць міністр.

Праз тры дні ў кабінеце Брэжнева з'яўляецца бледны, нявыспаны саветнік і кажа:

— Забійце мяне, Леанід Ільіч, але не ведаю...

— Эх, ты, дурак, гэта Хэйг.






Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачута (адказны сакратар), Яніна Чарнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Suraska 1

15-950 Białystok skr. poczt. 149

tel. 232-41, 210-33.

Wydawca Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-962 Białystok ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową z dostawą do domu zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 1.950 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch” Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28, Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 900 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— lipiec 4500 zł
— sierpień — 3600 zł.
— wrzesień 4500 zł.

Cena prenumeraty na III kwartał 12 600 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK Białystok, ul. Warszawska 11. Nr konta NBP O/O Białystok 8021 3203-132

Zam. 856/90 r.